ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА • NO.24 (3144) • ЧАЦВЕР, 2 ліпеня, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Нізкі паклон...**
40 гадоў таму часу, як былі ўзведзены мемарыяльныя комплексы "Хатынь" і "Курган Славы" Стар. 2



**Краязнаўчая адысея**
Вілейшчына ўшаноўвае знакамітых продкаў Стар. 3



**Нібы кроплі пяшчотнай расы**
Алена Артынская адраджае мастацтва бісерапляцення Стар. 4

## ДА 65-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ



У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ветэранам ёсць што прыгадаць пра сваё баявое юнацтва

# Успомнім тыя гераічныя дні...

## Выстава "Бітва за Беларусь: верасень 1943 г. — ліпень 1944 г." стала сапраўдным эмацыянальным адкрыццём для ветэранаў

Выстава прымеркавана да 65-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Адкрылася яна ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску і з'яўляецца працягам юбілейнага выставачнага праекта "Беларусь. Трыумф пераможцаў".

Праект, як лічаць яго аўтары і арганізатары, — гэта даніна памяці і глыбокай пашаны пакаленню ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны — воінам-пераможцам, якія абаранілі Радзіму і свет ад фашызму. Ён адрасаваны маладым пакаленням, тым, каму далей працягваць традыцыі, ісці ў будучае з пачуццём гонару за подзвігі дзядоў і асабістай адказнасці за бяспеку і дабрабыт Айчыны.

Як вядома, бітва за Беларусь уключала комплекс вайсковых аперацый, мноства баёў, якія былі злучаны адной мэтай — разгром нямецка-фашысцкай групы армій "Цэнтр" і выгнанне акупантаў з тэрыторыі рэспублікі. Складаючымі часткамі бітвы за Беларусь былі наступальныя аперацыі Калінінскага (1-га Прыбалтыйскага фронту), Заходняга, Цэнтральнага (Беларускага) і Бранскага франтоў па вызваленні ўсходніх раёнаў Беларусі ў верасні 1943 г. — лютым 1944 г.; буйная стратэгічная наступальная аперацыя Чырвонай Арміі "Баграціён" з удзелам войск 1-га Прыбалтыйскага, 3-га, 2-га і 1-га Беларускага франтоў з 23 чэрвеня па 28 ліпеня 1944 г.; актыўная барацьба супраць гітлераўскіх акупантаў партызанскіх фарміраванняў і падпольшчыкаў Беларусі.

Музейнымі сродкамі і экспанатамі выстава адлюстроўвае цяжкі шлях воінаў Чырвонай Арміі да вызвалення Беларусі. Даносіць да новых пакаленняў памяць аб людзях на вайне, паказвае масавую гераічнасць і ахвяры воінаў шматнацыянальнай Чырвонай Арміі, якія вызвалялі краіну. Галоўная ўвага на выставе нададзена не столькі паказу баявых дзеянняў, колькі апавяданню аб пэўных подзвігах і лёсу чалавека на вайне. У аснову экспазіцыі пакладзена калекцыя лістоў палявой пошты. Унікальныя асабістыя дакументы — лісты загінуўшых у баях за вызваленне Беларусі франтавікоў з'яўляюцца эмацыянальным складаючым выставы. Франтавыя лісты ўпершыню прадстаўлены для шырокага паказу.

## З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

# "Няхай заўсёды будзе мірнае неба!"

Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"! Члены нашага беларускага таварыства "Сябры" з эстонскага горада Нарва пастаянна чытаюць вашу газету. Асабліва нам падабаюцца расказы пра беларускія таварыствы ў іншых краінах (пажадана ўказваць іх каардынаты, хаця б электронную пошту). Мы сябруем з беларускімі таварыствамі ў Эстоніі, наладзілі сувязі з беларусамі Літвы, Латвіі. Сустракалі ўсіх іх на эстонскай зямлі на фестывалях беларускай песні "Спяваюць беларусы Прыбалтыкі", якія мы арганізоўвалі на працягу 2006–2008 гадоў. Цяпер самі збіраемся ў верасні ў літоўскі горад Вісагінас на аналагічны музычны фестываль.

А пішам вам з галоўнай мэтай — павіншаваць усіх беларусаў са святам 3 ліпеня, 65-й гадавінай вызвалення Беларусі. Гэта — святы дзень! Няхай заўсёды будзе мірнае неба! Няхай заўсёды людзі свету паважаюць адзін аднаго! Няхай адыдуць у мінулае ўсе войны на зямлі!

Роўна год таму нам удалося арганізаваць экскурсію ў Мінск, Хатынь і горад-пабрацім Барысаў. Напярэдадні свята Мінск быў асабліва прыгожы яркімі сцягамі, кветкамі. Сурова сустрэла нас Хатынь. Свечкі, хвіліна маўчання — наша даніна загінуўшым… Гэта не павінна паўтарыцца!

З павагай ад імя беларускага грамадства "Сябры" —
**Людміла Аннус**
г. Нарва, Эстонія.
sjabro-ljuda@mail.ru

## ВЕСТКІ

# Знаёмства было карысным

**Валерый Сідорчык**

### Данія зацікаўлена ва ўсталяванні пабрацімскіх сувязяў з беларускімі рэгіёнамі

"Мы ведаем, напрыклад, што Беларусь мае багатыя культурныя традыцыі, поспехі ў спорце, адукацыі. Супрацоўніцтва ў гэтых сферах магчыма будзе наладзіць у першую чаргу", — такое меркаванне выказаў старшы саветнік агенцтва мясцовых органаў улады Даніі Йэнс Петэр Крысценсэн. На яго погляд, развіццю пабрацімскіх сувязяў шмат у чым можа спрыяць і працэс далейшага збліжэння Беларусі і ЕС.

Афіцыйная дацкая дэлегацыя на працягу тыдня наведала некалькі раёнаў Магілёўскай і Гомельскай абласцей, правяла перагаворы з кіраўнікамі мясцовых органаў улады. Як адзначыў Йэнс Петэр Крысценсэн, задача ўдзельнікаў дэлегацыі — падрыхтаваць прапановы для свайго ўрада з пэўным указаннем назваў гарадоў і раёнаў Беларусі, якія гатовы стаць пабрацімамі дацкіх муніцыпальных аб'яднанняў.

# Новыя маршруты

**Вольга Бяляўская**

### "Белавія" пачынае рэгулярныя рэйсы ў Рыгу і Амстэрдам

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі генеральны дырэктар Нацыянальнай авіякампаніі Анатолій Гусараў, рэйсы ў Рыгу "Белавія" пакуль не выконвае, а выступае партнёрам латвійскай авіякампаніі "ЭйрБалтык". "І вось у дапаўненне да штодзённых рэйсаў гэтай авіякампаніі мы маем намер пасля ліпеня адкрыць рэгулярны рэйс у Рыгу з чатырма частотамі на тыдзень", — сказаў ён.

Сёлета "Белавія" адкрыла чартарны рэйс на грэцкі востраў Родас, як запэўніваюць авіятары, ён карыстаецца досыць вялікім попытам. З сярэдзіны чэрвеня авіякампанія павялічыла колькасць рэйсаў у Маскву да пяці раз на дзень. "Мы таксама знайшлі магчымасць сёлета знізіць кошт білетаў на чартарных рэйсы, — расказаў Анатолій Гусараў. — Паніжэнне кошту білетаў шмат у чым абумоўлена памяншэннем кошту на авіяпаліва".

ДА 65-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

# Нізкі паклон...

## 40 гадоў таму былі ўзведзены мемарыяльныя комплексы "Хатынь" і "Курган Славы"

Уладзімір Падаляк

22 сакавіка 1943 года вёску Хатынь, што на Лагойшчыне, карны фашысцкі батальён спаліў разам з жыхарамі. Загінула 149 чалавек, 75 з якіх — дзеці. Самаму малому на той час споўнілася толькі 7 тыдняў... Ураталяваліся ўсяго некалькі чалавек. 13-гадовы Валодзя Яскевіч, яго малодшая сястра Соня і 12-гадовы Саша Жалабковіч змаглі ўтаіцца, калі карнікі зганялі людзей у хлеў, 7-гадовы Віця Жалабковіч і 12-гадовы Антон Барраноўскі вырваліся з палаючага хлява жывымі. Цудам выжыў і дарослы сведка гэтай трагедыі — вясковы каваль Іосіф Камінскі. Між трупаў аднавяскоўцаў ён знайшоў свайго смяротна параненага сына. Хлопчык памёр на руках у бацькі. Гэты эпізод лёг у аснову скульптуры «Няскораны чалавек».



"Хатынь" нагадвае ўсім пакаленням пра трагедыю спаленых падчас вайны вёсак

У час вайны ў Беларусі было зруйнавана 209 гарадоў і 270 пасёлкаў. Спалена 9 200 вёсак, 628 з якіх знішчаны разам з жыхарамі. 186 вёсак паўтарылі трагічны лёс Хатыні — яны назаўсёды зніклі з твару зямлі...

У 1966 годзе было прынята рашэнне стварыць у Хатыні мемарыяльны комплекс. Ён павінен быў стаць помнікам усім спаленым у вайну вёскам. Мемарыяльны комплекс быў адкрыты 5 ліпеня 1969 года, у 25-ю гадавіну вызвалення Беларусі. Аўтары мемарыяла — архітэктары Ю.Градаў, Л.Левін, В.Занковіч, скульптар С.Селіханаў. Галоўны інжынер праекта — В.Макарэвіч.

Вось што расказваюць пра мемарыяльны комплекс "Хатынь" яго дырэктар Канстанцін Мішын і члены аўтарскага калектыву.

Канстанцін Мішын: "Тыя беды, якія спасціглі Беларусь у час Вялікай Айчыннай вайны, не маюць аналагаў ва ўсёй гісторыі чалавецтва. Кожны чацвёрты жыхар Беларусі загінуў у вайне, а гэта больш за два з паловай мільёны чалавек. У памяць аб гэтым і быў створаны комплекс "Хатынь", падобных якому няма ў свеце".

Юрый Градаў: "У 1965 годзе быў аб'яўлены Рэспубліканскі конкурс на лепшы праект "Памяць спаленых вёсак". Было шмат удзельнікаў, але наш праект атрымаў першую прэмію. У той час наш калектыў ніяк не мог вырашыць, рабіць хатынскія званы ці не. Тады яшчэ не прызнавалі рэлігію, і мы баяліся, што з-за гэтага амаль царкоўнага перазвону ідэю могуць не прыняць. Але, на шчасце, у нас усё атрымалася.

Хатынь называюць помнікам-дакументам, бо мы ніколькі не змянілі планіроўку вёскі. Хаты стаяць на сваіх колішніх месцах. Хатынь — вельмі вобразны мемарыял. Кожная дэталь важкая, нешта значыць. Адчыненыя весніцы — гэта адчыненыя сэрцы, якія сімвалізуюць гасціннасць і дабрыню беларускага народа, а плач званоў... Вельмі прыемна, што мемарыяльны комплекс "Хатынь" знаходзіцца ў добрым стане, дзяржава ўдзяляе гэтаму вялікае значэнне. Невыпадкова Хатынь мае сусветную вядомасць".



Курган Славы — помнік вызваленню

Леанід Левін: "У Хатынскага мемарыялу было шмат іспытаў. Першы — Рэспубліканскі конкурс, другі — меркаванне народа, трэці — мастацкая якасць і чацвёрты — час. Мы, як аўтары лічым, што "Хатынь" вытрымала ўсе гэтыя іспыты. Дарэчы, у Маскве, калі разглядаўся наш праект на прысуджэнне Ленінскай прэміі, тагачасны міністр культуры СССР Кацярына Фурцава сказала, што гэты помнік трэба наогул разбурыць. Тады нам было вельмі цяжка. Але за намі была радзіма".

Невыпадкова ў дзень адкрыцця мемарыяльнага комплексу "Хатынь" адбылося і ўрачыстае адкрыццё Кургана Славы — помніка Савецкай Арміі, якая вызваліла Беларусь ад ворага. Ён прадстаўляе сабой курган вышынёй 35 метраў, на вяршыні якога знаходзяцца чатыры штыкі-абеліскі. Яны сімвалізуюць чатыры франты, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі: 1-ы, 2-гі, 3-ці Беларускія і 4-ы Прыбалтыйскі франты. Да вяршыні кургана вядуць дзве лесвіцы — кожная па 241 прыступку. У аснову насыпу была пакладзена зямля з гарадоў-герояў Масквы, Ленінграда, Валгаграда, Севастопаля, Адэсы, Кіева, Брэста, а таксама капсула са зваротам да нашчадкаў. Аўтарамі мемарыялу з'яўляюцца скульптары А.Бембель, А.Арцімовіч, архітэктары А.Стаховіч, Л.Міцкевіч і В.Лапцэвіч.

А вось што ўзгадаў былы франтавік, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, старшыня Беларускага фонду міру Марат Ягораў: "Калі ў Беларусь прыехаў Фідэль Кастра, ён наведаў і Курган Славы. І падымаўся на самую вяршыню не па прыступках, а па самім зялёным схіле, як бы "па-партызанску", напрасткі… Было вельмі цікава за гэтым назіраць".

Сёння гэтыя помнікі — не толькі гісторыя. Яны — як памяць пра загінуўшых і ўдзячнасць усім, хто адстаяў Айчыну перад фашызмам.

# Такі незвычайны салдацкі лёс

Лявон Целеш

**Так, мінула ўжо 65 гадоў, як Беларусь вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У тых падзеях прымалі ўдзел і тыя, каму на пачатку вайны было ўсяго 14—16 гадоў. Мяне глыбока ўсхваляваў салдацкі лёс жыхара Дзяржынска Барыса Дамінікавіча Зубовіча**

Нарадзіўся ён у 1926 годзе ў шматдзетнай сялянскай сям'і. У чэрвені 1944 года быў мабілізаваны ў армію. Пасля падрыхтоўкі ў вучэбным палку на Яраслаўшчыне яго накіравалі ва ўзвод супрацьтанкавых ружжаў, які размяшчаўся ў пасёлку Жабінка на Брэстчыне. Адсюль з жорсткімі вызваленчымі баямі ў складзе стралковага палка 3-га Беларускага фронту Барыс Дамінікавіч прайшоў па Беларусі, Літве, Усходняй Прусіі (цяпер Калінінградская вобласць). Пад Кёнігсбергам стралковы батальён трапіў у акружэнне. У жорсткім баі з ворагам з усяго батальёна засталіся ў жывых 23 байца. Цяжка параненага Барыса Дамінікавіча з поля бою вынеслі санітары. А яго маці неўзабаве атрымала паведамленне аб гібелі сына.

А здарылася вось што. Калі байца перавязвалі, на зямлю выпалі пісьмы з дому і яго салдацкі медальён. Усё гэта знайшлі каля іншага загінуўшага салдата. Непрытомнага Барыса Зубовіча разам з іншымі параненым байцом паклалі ў санкі і павезлі ў санітарную часць. Толькі некалькі кіламетраў ад'ехалі ад поля бою, як раптоўна коні трапілі на нямецкую міну. Ад моцнага выбуху санітара, а таксама другога параненага забіла, а Барыса Зубовіча моцным выбуховай хваляй адкінула ўбок.

Такім чынам, двойчы на працягу ўсяго некалькіх гадзін салдат быў побач са смерцю.

Аперыравалі яго спачатку ў санчасці, потым — у шпіталі. Пра перамогу ён даведаўся ў шпіталі. А на шчодра палітай салдацкай крывёю зямлі Калінінградскай вобласці на адной са шматлікіх салдацкіх брацкіх магіл стаіць помнік, дзе ў спісе загінуўшых ёсць і імя Барыса Дамінікавіча Зубовіча.

Пасля вайны Барыс Дамінікавіч працаваў у Дзяржынску, мае ўрадавыя ўзнагароды. Цяпер яго дагледае дачка Ірына. Са святам Вас, паважаны Барыс Дамінікавіч! Бадзёрдзьцеся, жывіце доўга!

НАВІНЫ

## Праз гады і стагоддзі

Дзіяна Курыла

**Полацк стаў удзельнікам Ганзейскага саюза Новага часу**

Рашэнне аб гэтым прынята на агульным сходзе дэлегатаў ганзейскіх гарадоў, якое прайшло ў Вялікім Ноўгарадзе на XXIX Ганзейскіх днях Новага часу.

Нараўне з Полацкам новымі ўдзельнікамі сучаснага Ганзейскага саюза сталі нідэрландскі горад Гронінген і ісландскі Сцікісхольмур. Ганзейскі саюз Новага часу быў узноўлены ў 1980 годзе. У яго склад могуць уваходзіць толькі гарады, якія з'яўляліся ўдзельнікамі гэтага саюза ў эпоху сярэднявечча ці мелі трывалыя сувязі з Ганзай.

Па словах старшыні Полацкага гарвыканкама Уладзіміра Тачылы, удзел у гэтым міжнародным праекце, які аб'ядноўвае 173 гарады, будзе спрыяць росту прэстыжу Полацка ў еўрапейскай прасторы і наладжванню міжнародных сувязяў як у сферы турызму, так і ў бізнесе. Старшыня гарвыканкама не выключыў магчымасці ўдзелу Полацка ў ганзейскіх праектах. Да таго ж ганзетаг — сход мэраў гарадоў-членаў Ганзейскага саюза іграе немалаважную ролю ў агульнаеўрапейскай эканоміцы, дадаў ён.

## Партнёры збіраюцца разам

Аліна Грышкавец

**Сустрэча гарадоў-пабрацімаў Беларусі і ФРГ пройдзе ў Магілёве**

Сёмая сустрэча гарадоў-пабрацімаў Беларусі і ФРГ у кастрычніку цяперашняга года пройдзе ў Магілёве. Як паведаміў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Германіі Уладзімір Скварцоў, на мерапрыемстве плануецца абмеркаваць перспектывы эканамічнага ўзаемадзеяння, навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва, развіцця турызму.

Кіраўнік беларускай дыпламатычнай місіі адзначыў, што пабрацімскія сувязі з'яўляюцца неад'емнай часткай беларуска-германскіх адносінаў. "Сёння гэта адзін з найбольш паспяховых накірункаў беларуска-германскага ўзаемадзеяння. Вялікае значэнне пры гэтым маюць шматлікія кантакты паміж людзьмі, высокая асабістая зацікаўленасць тых, хто ўсталёўваў і працягвае развіваць гэтыя сувязі", — сказаў Уладзімір Скварцоў.

Варта адзначыць, што ўдзельнікі пабрацімскага руху з'яўляюцца шэраг гарадоў Беларусі і Германіі, 18 пар звязаны пагадненнямі аб партнёрстве. Пасол Беларусі ў ФРГ падкрэсліў, што гэтае супрацоўніцтва рэалізуецца па шырокаму колу накірункаў і ў большасці выпадкаў — з узрастаючай інтэнсіўнасцю.

ГОД РОДНАЙ ЗЯМЛІ

# Краязнаўчая адысея

## Вілейшчына ўшаноўвае знакамітых продкаў

Адам Мальдзіс

Сёлета, у сувязі з круглай датай, 140-годдзем з дня нараджэння, "буйным планам" глядзіцца постаць паэта і рэвалюцыянера Адама Гурыновіча (1869–1894) — адна з самых трагічных у гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Як відаць з дат жыцця гэтага выхадца са старадаўняга татарскага роду Гурыных, памёр ён ва ўзросце ўсяго 25 гадоў. Да гэтага трэба дадаць, што перад смерцю, як член тайнага студэнцкага "Гуртка моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай", распаўсюджвальнік рэвалюцыйнай, у тым ліку і марксісцкай літаратуры (атрымоўваў ён яе праз "белую" нарачоную, віленскую швачку Станіславу Пяткевіч ажно са Швейцарыі), паэт быў у Пецярбургу арыштаваны, пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць, але часова адпушчаны ў сувязі з заражэннем чорнай воспай у бацькоўскі дом — фальварак Крыстынопаль на мяжы цяперашніх Вілейскага і Смаргонскага раёнаў, пад яўны нагляд паліцыі. Як сведчаць знаходкі вілейскіх следапытаў, не стала не толькі перспектыўнага пісьменніка, але і таленавітага інжынера, які, будучы студэнтам, задумваўся над удасканаленнем паравозаў. А ў ваколіцах Крыстынопаля краязнаўцы знайшлі змайстраваны ім арыгінальны сталярны варштат, які дзейнічае і сёння, ён хутка зойме сваё месца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Трагізм Гурыновіча ўзмацняўся тым, што пры жыцці ён так і не змог пабачыць у друку свае вершы і пераклады (а пісаў ён на беларускай, рускай і польскай мовах, перакладаў Крылова, Міцкевіча, Пушкіна, Франка). Дзякуючы вядомаму мовазнаўцу Яну Карловічу і, магчыма, садзейнічанню Францішка Багушэвіча дачакаўся толькі публікацыі ў кракаўскім часопісе і ў асобным з яго адбітку сваіх фальклорных запісаў пад назвай "Збор беларускіх твораў"(1893). Восем сшыткаў з вершамі паэта трапілі пры вобыску ў рукі жандараў. Яго архіў, у тым ліку перапіску, уратавала пляменніца, прафесар Віленскага універсітэта Яніна Гурыновіч, якая ў 1946 годзе ўзяла рукапісы з сабой у Торунь (Польшча). Пасля яе смерці, у 1971 годзе, праз савецкае пасольства ў Варшаве мне ўдалося вярнуць рукапісы ў Беларусь, і цяпер яны захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.



Вілейка сёння



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа




Малюнак-рэканструкцыя Анатоля Капцюга

Аднак вернемся да Вілейшчыны. Там з 1985 года актыўна дзейнічае, праводзіць шматлікія выставы і экспедыцыі краязнаўчы музей. Музей "Вілейшчыналітаратурная" створаны пры Ільянскай сярэдняй школе рупліўай Розай Шэрай, якая цяпер рыхтуе пра яго кнігу. Краязнаўчыя картатэкі вядуцца ва ўсіх 34 сельскіх бібліятэках раёна (характэрна, што колькасць іх за апошні час не зменшылася).

І ўсё ж, душой патрыятычнага руху ў раёне з'яўляюцца энтузіясты-аматары. Найперш гэта дырэктар Вілейскага раёна электрасетак Анатоль Рогач, які нарадзіўся непадалёку ад Крыстынопаля, будаўнік-муляр і арганізатар турыстычнага руху Віталь Кастэнка, архітэктар Анатоль Капцюг, мастак Барыс Цітовіч і многія іншыя. Яны дзейнічаюць і



Адам Гурыновіч

разам, і паасобку, узаемадапаўняючыся. А. Рогач, напрыклад, даказаў, дзе знаходзіліся тыя Кавалькі, у якіх нарадзіўся Гурыновіч (на Мядзельшчыне), той Крыстынопаль, у якім ён жыў (аказалася, што не ў Смаргонскім раёне, як сцвярджалі раней энцыклапедычныя крыніцы, а ў Вілейскім), тыя Золькі, у якіх ён пахаваны (у апошнім выпадку на след навёў верш паэта "Раз у Зольках у дзярэўні...", прысвечаны пажару ў суседній вёсцы), устанавіў радавод паэта да шостага калена, знайшоў у кнігах Войстамскага касцёла запіс, што Гурыновіч памёр не 17, як лічылася раней, а 23 студзеня. Урэшце, у 2007 годзе выдаў у Вілейцы кнігу, прысвечаную Гурыновічу. А, у сваю чаргу, украінец, удзельнік будаўнічых работ у Львіві Віталь Кастэнка так прырос да вілейскай зямлі, што друкаваў свае артыкулы толькі на беларускай мове, арганізаваў (спачатку на сваёй кватэры) турыстычны клуб, на рахунку якога — мноства паходаў, у тым ліку сплаў "Вілія-Нярыс" (2007). Па ініцыятыве і пры намаганнях мясцовых краязнаўцаў былі адкрыты памятныя камяні ў Крыстынопалі і Кавальках Мядзельскага раёна, імем паэта названы вуліцы ў Вілейцы і Мядзелі.

І вось — 140-годдзе з дня нараджэння Адама Гурыновіча. Я ўяўляю, што зрабілі б у такім выпадку краязнаўцы некаторых іншых раёнаў. Напісалі б слёзныя лісты раённаму ці вышэйшаму кіраўніцтву: дайце сродкі на аднаўленне капліцы на могілках, дзе пахаваны паэт і яго сям'я... А вілейскія краязнаўцы рашылі дзейнічаць самі. Анатоль Рогач напісаў юбілейны артыкул у "Полымя" пад назвай "Такім любіць прашу..." (2009, № 2), перавыдаў (відаць, за ўласныя сродкі) з дапаўненнямі сваю кнігу. Анатоль Капцюг склаў праект капліцы з мемарыяльнай дошкай, а Віталь Кастэнка разам з маладымі памочнікамі ўзяў ды вымураваў яе. На ўрачыстую цырымонію запрасілі старшыню раённага Савета Яўгена Ігнатовіча, таксама краязнаўцу. На свята прыехалі вучні Слабадской сярэдняй школы Мядзельскага раёна, якая носіць імя паэта. Асвяціў капліцу дыякан Павел з касцёла ў Вілейцы. А потым гучалі вершы Гурыновіча і пра Гурыновіча — у Зольках і сельскім Доме культуры суседніх Лыцавічаў.

Калі ж юбілей перанёсся ў Мінск, у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, тут таксама не магло абысціся без вілейскіх краязнаўцаў. Анатоль Рогач і Віталь Кастэнка прыехалі на вечарыну, выступілі, дадалі да экспанатаў на выставе свае матэрыялы, паказалі свой відэафільм, прысвечаны Гурыновічу (кадры з яго ілюструюць гэты артыкул). Па свайму прафесіяналізму не ўступалі сталічным мэтрам, а пераўзаходзілі іх па апантанасці.

І Адам Гурыновіч тут — не нейкае выключэнне. "Рогачаўская каманда" адкрыла Вілейшчыне і суседнім раёнам нямала землякоў, славутых суайчыннікаў. Гэта — і ўраджэнец Касуты ўкраінскі гетман Піліп Орлік, чый мемарыял лічыцца ледзь не першай канстытуцыяй у Еўропе, і папулярны польскі празаік Ігнацый Ходзька, і паплечнік Тараса Шаўчэнкі Эдвард Жалігоўскі. Удакладнены даты і месцы іх нараджэння і смерці, што ўжо ўлічваецца беларускімі і зарубежнымі энцыклапедыстамі. І яшчэ цікавая ініцыятыва, пра якую мне паведамілі з Вілейкі. За апошнія 70 год у раёне не стала каля 250 вёсак — адны былі спалены фашыстамі, другія нібы зніклі пад хвалямі Вілейскага вадасховішча. Дык вось, на ўзлеску вёскі Снежкава мяркуецца ўсталяваць адмысловую карту Вілейшчыны, дзе на 13 камянях (па колькасці сельсаветаў) будуць адзначаны ўсе тапанімічныя страты.

Аповедам пра адну са страт, але ўжо чалавечую, я хацеў бы закончыць гэтыя беглыя нататкі пра краязнаўцаў Вілейшчыны. Пакуль яны пісаліся, не стала аднаго з іх, Віталя Кастанкі. Мы пазнаёміліся на згаданай вечарыне ў мінскім архіве-музеі, абмяняліся карыснымі для абодвух бакоў звесткамі, у тым ліку пра выданне твораў Адама Гурыновіча асобным томам у "Кнігазборы". Абяцалі перапісвацца... І тут раптам бачу ў маладзечанскай "Рэгіянальнай газеце" цэлую старонку, прысвечаную яго памяці: а0казваецца, ехаў раніцай веласіпедам на работу і быў збіты аўтамашынай. Многа спачуванняў, у тым ліку Саюза падарожнікаў Літвы. Вялікі артыкул прысвечаны здзейсненым і нядзейсненым планам энтузіяста.

А спраў было намечана на цэлы калектыў. Але вучняў-прадаўжальнікаў таксама нямала. І ёсць надзея, што яны прадоўжаць краязнаўчую адысею, распачатую папярэднікамі.

# Нібы кроплі пяшчотнай расы

## Алена Артынская адраджае мастацтва бісерапляцення

Людміла Мінкевіч

“Вось мае першыя каўнерыкі, велікодныя яйкі... А гэты галаўны ўбор змайстравала для дачкі, на Навагодні ранішнік...”, — Алена выкладае і выкладае перада мною гэтыя цікавыя рэчы. Ой, і цяжка ж тут не разгубіцца, асабліва калі душа, як мая, цягнецца да ўсяго бліскучага і яркага.

Калі Алена адчула, што гэта — яе справа? Магчыма, гадоў дваццаць таму. Тады, яшчэ студэнткай, дзяўчына зацікавілася майстар-класам Энгелісы Літвінец, аўтара адзінай на той час кнігі пра мастацтва бісерапляцення. “Наўрад ці знойдзеце вы гэту кнігу, выдадзена ж у канцы шасцідзесятых”, — засмуціла Алену майстар. Толькі ж ад лёсу не ўцяшэш: у родным Мінску Алена адразу ж натрапіла ў кнігарні на працу Літвінец, а ў камісійную краму якраз прывезлі бісер.



Алена Артынская дэманструе свае вырабы на выставе “Палітра душы”

“Тады фактычна ўсё і пачалося”, — прыгадвае Алена. — За плячыма ўжо былі і мастацкае вучылішча, і два курсы Санкт-Пецярбургскай акадэміі па спецыяльнасці мастацтвазнаўства”.

У тым жа годзе разам з аднадумцамі Алена адкрыла вучэбна-вытворчае прадпрыемства “Беларусачка”, якое, перажыўшы цяжкія часы, цяпер адноўлена. Сёння, гаворыць Алена, ужо зусім іншыя ўмовы для развіцця мастацтва бісерапляцення. Ёсць нямала курсаў, шмат кніг (дарэчы, некаторыя з іх напісала і мая субяседніца). А Інтэрнэт адкрыў магчымасці для зносінаў з замежнымі майстрамі. Алену радуе, што сёння яна не адна шчыруе на гэтай ніве. У секцыі бісерапляцення Беларускага саюза майстроў, якой кіруе Алена Артынская, ужо больш за дзесяць майстроў з розных рэгіёнаў. Працуюць у розных кірунках: ад народных матываў (робяць прыгожыя абярэгі, накшталт таго, які быў на Алене падчас нашай сустрэчы) да сапраўднага ювелірнага мастацтва.

Якія толькі рэчы не сустрэнеш і ў калекцыі Артынскай! Алена працягвае здзіўляць мяне, паказваючы зробленыя ёю ёлачныя ўпрыгажэнні ці зборнік паэзіі з вокладкай, расшытай бісерам... Асабліва падабаецца майстру ўпрыгожваць інтэр’ерныя рэчы, кшталту падсвечнікаў і вазаў. Як расказвае Алена, ідэі “проста выстрэльваюць” з яе галавы, калі бачыць тую ці іншую рэч, ці проста пра нешта разважае. “Зусім нядаўна набыла вялікую вазу незвычайнай формы — выпуклую з аднаго боку. Думаю, калі яе выкарыстаць у якасці каркаса, атрымаецца цікавая фігура цяжарнай кошкі ці мышы”, — усміхаецца Алена і ўжо паказвае рукамі ў паветры будучую работу.

А як высока ўздымаецца душа, калі глядзіш на вышытыя майстрам іконы ці велікодныя яйкі!

Алену не вабяць яркія колеры, раздражняе ў працах з бісеру празмернасць папулярных у апошні час уставак з каменю, металу, якія быццам “топчуць” далікатныя шкляныя пацеркі. Яе працы адрозніваюцца стрыманасцю, спакоем, лёгкасцю, умеранай дэкаратыўнасцю і гульнёй з бісерам. Магчыма, таму хочацца і хочацца прымяраць яе каралі, перакочваць ў далонях велікодныя яйкі, чапаць за вушкі пацешных бісерных сабак і мышак...

# Разумелі без перакладчыкаў

Лілія Навіцкая

**Гастролі Панявежскага лялечнага тэатра на калёсах прайшлі на сцэне Гродненскага абласнога тэатра лялек**

Артысты з Панявежыса ўпершыню выступалі ў горадзе над Нёманам. Яны паказалі спектакль па казцы Андэрсэна «Салавей» на літоўскай мове. Пры гэтым большасць маладых гледачоў добра разумелі ўсё, аб чым гаварылася са сцэны: вялікую частку публікі склалі дзеці этнічных літоўцаў — удзельнікаў грамадска-культурнага аб’яднання літоўцаў «Тэвінэ», якое дзейнічае ў абласным цэнтры, і лідскага аб’яднання «Рута».

— Мы спрыяем не толькі гэтаму, але і іншым культурным праектам, — адзначыў Генеральны консул Літвы ў Гродне Рымантас Латакас. — Так, пры падтрымцы консульства ў джазавым фестывалі ў Гродне ў бліжэйшы час прыме ўдзел літоўская група «Трыс». Наладжваюцца сувязі паміж філармоніямі, Віленскім рускім і Гродзенскім драматычным тэатрамі. Ускладаем вялікія надзеі на праграму прыгранічнага супрацоўніцтва ЕС «Літва – Латвія – Польшча», у рамках якой можна ўвасобіць многія цікавыя ініцыятывы. Знамянальна, што ўсё гэта адбываецца ў час, калі адзначаецца 1000-годдзе гістарычнай Літвы.

КРЫЖАВАНКА

# Паставам — 600 гадоў



**Па гарызанталі:**

3. Назва вёскі, якая ўпамінаецца ў 1409 годзе, на месцы якой 600 гадоў таму ўзніклі Паставы. 6. Рака, на беразе якой размяшчаюцца Паставы. 8. Дзіця жаночага полу. 11. Маскоўскі патрыярх, якому належыць адзін са спісаў ... летапісу. 12. ... -белахвост. Птушка, занесеная ў Чырвоную кнігу Беларусі. 13. Імя Ромера-жывапісца, графіка, этнографа, які доўгі час жыў на Пастаўшчыне. 16. Расліна, яе насенне выкарыстоўваецца як прыправа. 17. Рыбалоўны кручок з трыма зубцамі (разм.). 18. Нізкі жаночы або дзіцячы голас. 19. Званне, чын. 21. “О, Беларусь, мая ...” Зборнік вершаў беларускага паэта Ул. Дубоўкі, ураджэнца Пастаўшчыны. 23. Нашто ..., калі мужык харошы (прык). 24. Імя Маркава, Героя Савецкага Саюза, камандзіра брыгады імя К. Варашылава, ураджэнца Пастаўшчыны. 27. Прозвішча беларускай танцоўшчыцы, прыгоннай графа Тызенгаўза і выхаванкі яго балетнай школы ў Паставах. 28. Музыкальная вёска на Пастаўшчыне, якая вызначалася сваімі цымбалістамі. 29. Спосаб пісьма старажытных народаў Азіі.

**Па вертыкалі:**

1. Род запаведніка на Пастаўшчыне ў наваколлі азёр Вялікія і Малыя Швакшты. 2. Вадкасць са смалы хвойных дрэў, якую некалі выпрацоўвалі на заводах у Паставах. 4. Дзісненская ... Раўніна, у межах якой знаходзіцца паўночная частка Пастаўшчыны. 5. Пасудзіна для чэрпання вадкасці. 6. “Стары ...”. Будынак у Паставах культурна-гістарычнага прызначэння. 7. Дадатковы матэрыял пры пашыве вопраткі, абутку. 9. Зэлік... Прозвішча паэта, аўтара зборніка паэзіі “Сам- насам” і інш., пераклаў на яўрэйскую мову вершы Я.Купалы. 10. Імя Гальшанскага, дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, які валодаў некалі часткай зямель Пастаўшчыны. 14. Службовая асоба ў ВКЛ, якая сачыла за лясамі, распараджалася паляваннем. 15. Устройства для дэманстрацыі фільмаў. 18. Адмаўленне ад чаго-небудзь (разм.).20. “Звіняць цымбалы і....” Міжнародны фестываль народнай музыкі, які штогод праводзіцца ў Паставах з 1996 года. 21. Эпімах-.... Дзеяч беларускай культуры, выдавец, фальклярыст. Сёлета — 150 гадоў з дня яго нараджэння. 22. Грашовая адзінка Афганістана. 25. Назва буйной аграфірмы на Пастаўшчыне. 26. У былыя часы натуральны падатак у Рускай дзяржаве.

**Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку**

Па гарызанталі:
3. Пасаднік. 6. Мядзелка. 8. Дзяўчынка. 11. Нікан. 12. Арлан. 13. Альфрэд. 16. Кмен. 17. Якар. 18. Альт. 19. Ранг. 21. Шыпшына. 23. Грошы. 24. Фёдар. 27. Сітанская. 28. Груздава. 29. Клінапіс.
Па вертыкалі:
1. Заказнік. 2. Шкіпінар. 4. Нізіна. 5. Коўш. 6. Млын. 7. Даклад. 9. Аксельрод. 10. Аляксандр. 14. Лоўчы. 15. Экран. 18. Адгаворы. 20. Гармонік. 21. Шыпіла. 22. Афгані. 25. “Зара”. 26. Ясак.

Заснавальнік: Рэдакцыя газеты «СБ»
Рэдактар Віктар Харкоў
Адрас: пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61
Тэлефон рэдакцыі: +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
Бюро па рэкламе: Тэл. +375 17 290—60—11
E—mail: golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
Аб’ём выдання: 1 друк. арк.
Тыраж: 2000
Заказ: 785
Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", могуць не супадаць.